ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1799) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 4 ЛІСТАПАДА 1990 г. 1990 г. ЦАНА 600 зл.



## Новая палітыка (кадравая) у Бельску

Пачнем з абшырных цытатаў з лісту, які дзесяцера працаўнікоў Гарадской управы ў Бельску накіравала паслам Яўгену Чыквіну і Уладзіміру Цімашэвічу ды Сакрату Яновічу, старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Ліст датаваны днём 1 верасня 1990 г.

*My, pracownicy Urzędu Miejskiego w Bielsku Podlaskim, woj. białostockie, zwracamy się z uprzejmą prośbą o zainteresowanie się kwestią łamania praw konstytucyjnych i obywatelskich pracowników wyznających religię prawosławną. My, jako Białorusini zamieszkali na Białostocczyźnie, uważamy ją za swoje miejsce ojczyste, w chwili obecnej jesteśmy dyskryminowani pod każdym względem. Boli fakt, że ten ruch, który miał przynieść demokrację, niesie ze sobą ziarno nienawiści do ludzi wyznających inne poglądy, inne wyznanie, — po prostu rasizm. Liczy się tylko Polak, a Polak to tylko katolik. Nowowybrana władza miejska, która reprezentuje kręgi KO „Solidarność” oraz katolickie, rozpoczęła jawną i bezpardonową walkę z ludnością białoruską, a co za tym idzie, z prawosławiem.*

*Najbardziej jaskrawie ten fakt przejawia się na terenie naszego zakładu pracy, tj. Urzędu Miejskiego w Bielsku Podlaskim. Z uwagi na fakt, że w naszym mieście ludność białoruska stanowi zdecydowaną większość — znalazło to odbicie w strukturze zatrudnienia Urzędu. Pracowała większość Białorusinów lub Polaków wyznających religię prawosławną. Z dniem 31.07.1990 r. wypowiedzenia z pracy otrzymali kierownicy Referatów, a z dniem 31 sierpnia następna grupa pracowników. Wszyscy są wyznania prawosławnego. Mówi się wprost, że są to osoby prawosławne, których jest tu za dużo i muszą odejść. Nie są brane pod uwagę żadne kwalifikacje, przygotowanie zawodowe, staż pracy. Co więcej, nikt nie podaje żadnej przyczyny wypowiedzenia. Nie można tego podciągnąć pod redukcję etatów, bo równorzędnie z chwilą otrzymania wypowiedzeń na ich miejsce podstawiane są nowe osoby.*

(...)

*Naszym zdaniem, rozpoczęła się bezsprzecznie nagonka na prawosławie. Potwierdzają to rozmowy z członkami Komitetu Obywatelskiego — dokąd będą rządzić te kacapy? Mówi się nam o tym w oczy. Zgadzamy się z faktem redukcji etatów, ale jest to tylko, jak dotychczas, wymiana ludzi. Można takie sprawy załatwić po ludzku, bez zadrażnień po obu stronach. Faktu zwalniania ludzi nie konsultowano z przedstawicielstwem załogi. Rada Pracownicza nie jest brana pod uwagę przy posunięciach kadrowych, przy sprawach płacowych. Wszystko jest robione z premedytacją. Ponadto osoby zwalniane dostają zaocznie odpowiednią rekomendację — oczerniającą ich. Nie mają żadnych możliwości zatrudnienia na terenie miasta.*

*Przykładem kolejnych dyskryminacji mogą być również ostatnie podwyżki. Osoby wyznające religię prawosławną otrzymały je w kwocie od 30 do 60 tys. zł lub nie objęto ich podwyżką, a katolicy od 300 do 600 tys. zł albo i więcej. Pieniądze były przekazane na podwyżki wszystkim pracownikom, a nie tylko wybranym. Nikt nie umie odpowiedzieć, jakie były brane kryteria pod uwagę. Pan Burmistrz posiadający wykształcenie zawodowe odpowiada — były pieniądze, to podzielili, co wam do tego. Nie musi brać żadnych kryteriów pod uwagę.*

(...)

*Podając powyższe fakty Panom Posłom oraz Panu, Panie Janowicz, bardzo prosimy o podjęcie w ramach pełnionych funkcji problematyki znieważania ludności białoruskiej przez nowowybrane władze miejskie. Nie rozumiemy, dlaczego ciągle nas traktuje się*

(Працяг на стар. 5)

## БАБАХ!

**Экстра-дадатак да новай палітыкі ў Бельску**

8 кастрычніка на сесіі Гарадской рады ў Бельску быў падпісаны асаблівы дакумент нашага часу (і нашай беластоцкай прасторы), які называецца: *Protest Radnych Miejskich w Bielsku Podlaskim.*. Радныя пратэстуюць супроць выступлення пасла Уладзіміра Цімашэвіча ў Сейме (20.09.90 г.), дзе ён закрануў справу *rzekomej dyskryminacji urzędników naszego miasta „ze względu na białoruskie pochodzenie i prawosławne wyznanie”.* Пратэст падпісалі 16 радных, а 12 — не (прынцып прапорцыі 16:12). У дакуменце гаворыцца таксама пра прапорцыі ды некаторыя іншыя лічбы, ён таксама не пазбаўлены кроплі агульнагістарычнай рэфлексіі, таму я палічыў яго годным увагі нашых чытачоў. Што з дакумента — падаецца курсівам, астатняе — ад мяне.

Райцы тлумачаць (Маршалку Сейма Мікалаю Казакевічу, на чыё імя пратэст накіраваны, а таксама паслу Цімашэвічу):

*... od (??!) chwili przeprowadzenia demokratycznych wyborów samorządowych prawosławna ludność naszego miasta była traktowana przez ówczesne władze jako grupa uprzywilejowana jeśli chodzi o ilość zajmowanych stanowisk kierowniczych. Świadczą o tym następujące fakty:*

*— na ponad 20 instytucji i przedsiębiorstw działających w Bielsku Podlaskim w zaledwie 2 stanowiska kierownicze sprawowali katolicy,*

*— w szkołach stosunek liczby dyrektorów wynosił jak 8:3 na korzyść prawosławnych,*

*— w Urzędzie Miasta pracowało 13 katolików, co stanowiło 21,3 proc. zatrudnionych,*

*— prawosławni stanowili 100 proc. pracowników SB i około 90 proc. pracowników MO* (няпраўда, я быўем в SB і jestem katolikiem — сказаў мне адзін з цяперашніх працаўнікоў Гарадской управы).

А *w chwili obecnej, panowie?*

*W chwili obecnej, według naszej oceny:*

(Працяг на стар. 5)



— 11 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Не росквіт сацыялізму ў СССР, а яго глыбокі крызіс быў прычынай такой пастановы. Здавалася б, што воля Вярхоўнага Савета, праяўленая ў пастанове аб мове, а некалькі месяцаў пазней у пастанове аб суверэннасці, вырашаць усю праблему і Беларусь станецца Беларуссю. Тым часам на вуліцах Мінска і ў дзяржаўных установах не заўважаецца ніякіх змен. Зрусіфікаваныя беларусы, а тым болей рускія, якія жывуць у БССР, моцна сядзяць у сядле і нават не думаюць аб тым, каб пераходзіць з рускай на беларускую мову. Давялося мне быць у Міністэрстве культуры. Каля паўгадзіны сядзеў я ў прыёмнай намміністра, які свабодна карыстаецца беларускай мовай. Седзячы, мусіў я весці размову з сакратаркай беларускага замміністра. Сакратарка дэманстрацыйна на ўсе беларускія пытанні адказвала па-руску. Пераканаўшыся ў тым, што не прымусіць мяне перайсці на „лепшую“ мову, перастала са мной размаўляць. На працягу гэтай паўгадзіны ў прыёмную заглянула чалавек дванаццаць супрацоўнікаў беларускага міністэрства культуры. Ніводзін з іх не адазваўся па-беларуску. Я сядзеў і думаў: як гэтыя чыноўнікі могуць развіваць беларускую культуру, не паслугоўваючыся беларускай мовай?.. І так усюды. І так пагалоўна.

Ды і радавыя людзі пакуль што і не думаюць рэзыгнаваць з „лепшай“ мовы і мяняць яе на „горшую“.

Чаму я гляджу песімістычна на магчымасць рэалізацыі пастановы аб дзяржаўнасці беларускай мовы і аб суверэннасці БССР? А таму, што пакуль што не створаны ніякі афіцыйны орган, які б сачыў за працэсам беларусізацыі і які меў бы ў сваіх руках якія-небудзь санкцыі ў адносінах да русіфікатараў.

Міжволі параўноўваю сённяшнюю сітуацыю з перыядам беларусізацыі ў дваццатыя гады. Тады кожная беларуская газета пісала аб поступах беларусізацыі. Журналісты дэмаскавалі „вялікадзяржаўных рускіх шавіністаў“, якія тармазілі ход беларусізацыі. Сёння ў ніводнай беларускай газеце не знойдзем такіх акрэсленняў як „русіфікацыя“, „вялікадзяржаўнік“, „рускі шавініст“, „беларускі рэнегат“, „беларускі сервілізм“. А чаму ж не ўжываць такія тэрміны ў адносінах да тых, хто давёў да стану паўсмерці беларускую мову і беларускую нацыянальную свядомасць? Вялікарускія шавіністы пры дапамозе беларускіх рэнегатаў якраз і давалі беларускую духоўнасць да гібелі. І якраз вызваленая беларуская прэса павінна называць іх злавесныя і ганебныя імёны. У эфектнасць беларусізацыі павеpу толькі тады, калі яе старонкі, як гэта было ў дваццатыя гады, запоўняцца імёнамі чыноўнікаў, загадчыкаў, дырэктараў, сакратароў, пракурораў і суддзяў, якія, на жаль, пакуль што робяць усё, каб захаваць статус-кво, паколькі трактуюць беларусізацыю як вялікае зло, якое, на іх думку, прыціхне, сканае, самаліквідуецца.

І калі яно ёсць так, як ёсць, дык мусяць актывізавацца фармальныя ці нефармальныя ініцыятывы, якія крануць справу з мёртвага пункту і ажывяць мёртвую літару пастаноў аб дзяржаўнасці мовы і суверэннасці.

І тут аб Беларускім народным фронце. Гэта нефармальная арганізацыя дзейнічае ўжо многія месяцы. Аднак да сёння ўрад яе не прызнае, не робіць яе фармальнай. Зразумела, што ў такім руху, як БНФ, знойдуцца розныя асобы, у тым ліку і крайнія, і экстрэмальныя. Але ж арганізацыю трэба ацэньваць не па крайніх і экстрэмальных асобах, а па яе агульным характары, па яе грамадскай і нацыянальнай ролі. БНФ з'яўляецца рухам аўтэнтычным. Яго карэнні ў беларускай ганьбе і ў беларускім гонары. Наколькі мне вядома, нікім ён не фінансуецца, дзейнічае перад усім на энтузіязме. Заклікала яго да жыцця партыя сваім нацыянальным нігілізмам. Мусіла ж у народзе знайсціся сіла, якая спалохалася беларускага сервілізму, беларускага рэнегацтва. Спалохалася і пачала дзейнічаць на карысць беларускай годнасці. Трэба як найхутчэй БНФ легалізаваць і дапусціць да ўсіх дзяржаўных спраў.

На беларускай духоўнасці парваўся ланцуг. Пусціла першае звяно. Аднак яшчэ сотні звенняў уліваюцца ў гэту духоўнасць. І як жа яшчэ трэба многа часу, каб усе яны палопаліся і ланцуг замяніўся ў кучу бязладнага лому.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Першая выстаўка ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы** была адкрыта ў мінулую суботу. Пра гэтую падзею напішам больш дэталёва ў адным з бліжэйшых нумароў.

**Альфрэд Мядовіч** — старшыня прафсаюзаў ОПЗЗ, будучы ў Беластоку, сустрэўся са старшынёю ГП БГКТ **Аляксандрам Баршчэўскім.** Лідэр прафсаюзаў цікавіўся жыццём беларусаў у Польшчы і дзейнасцю БГКТ.

**Дзяржаўная выбарчая камісія** закончыла рэгістрацыю кандыдатаў на пост прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польскай. Зарэгістраваны: **Тадэуш Мазавецкі, Лех Валэнса, Раман Бартошчэ, Уладзімір Цімашэвіч, Станіслаў Тымінскі і Лешак Мачульскі.**

**Уладзімір Цімашэвіч** на перадвыбарчай сустрэчы ў Беластоку выказаўся на тэму нацыянальных меншасцяў, у тым ліку і беларусаў. Дэмакратыя, сказаў ён, гэта ўлада, якая шануе правы меншасцяў да іх культурных своеасаблівасцяў, традыцый, абычаяў. Лічу, што іх праблемы трэба вырашаць пры дапамозе нашага заканадаўства, а не двухбаковых дагавораў з іншымі дзяржавамі.

**Рэдакцыя „Газеты Всплучэснай“ пратэстуе** супраць праекта ліквідацыйнай камісіі РСВ, паводле якога газета мае быць прададзена на аўкцыёне. У адкрытым лісце, накіраваным прэм'ер-міністру Т. Мазавецкаму рэдакцыйны калектыў піша: „Здзіўляе нас, што газета, якая ў паўночна-ўсходнім рэгіёне мае найбольшы тыраж і дае найбольшы прыбытак, ставіцца на аўкцыён. У нашых умовах абазначае гэта практычна ліквідацыю газеты, якая зараз не мае ніякіх палітычных „дырыжораў“ і якая сапраўды з'яўляецца незалежнай. (...) Рашуча пратэстуем супраць такіх недэмакратычных пачынанняў, супраць практык з нядаўняга, няслаўнага, мінулага“.

**Дні хрысціянскай культуры** праходзілі ў мінулым тыдні ў Беластоку, а іх галоўнай тэмай былі грамадскія навукі папы Яна Паўла II. Святкаванні былі таксама адным з этапаў падрыхтоўкі да прыезду папы ў Беласток у будучым годзе.

**Прафсаюзы „Салідарнасць“ у Польскім радыё і тэлевізіі** аб'явілі пратэстацыйную акцыю супраць кіраўніцтва гэтай інстытуцыі. Найбольш хваляванняў сярод працаўнікоў выклікалі „сацыяльна-зарплатныя справы, гаспадаранне маёмасцю, шкодныя прапагандысцкія тэхнікі, маніпуляцыі інфармацыяй, а таксама непрафесіянальнасць і безадказнасць людзей, якія прымяняюць метады, вядомыя з нядаўняга мінулага“. На знак пратэсту на будынках былі вывешаны сцягі і расклеены плакаты.

**Савецкая дэлегацыя ў ААН выявіла свой ваенны бюджэт.** У дакументах, перададзеных генеральнаму сакратару ААН, сцвярджаецца, што на абарону ў СССР выдадзена ў 1989 г. 77,9 мільярда рублёў.

**Новы кантрольна-пагранічны пункт** быў адкрыты ў мясцовасці Грэбэннае, у Замойскім ваяводстве. Скароціць ён дарогу з цэнтральнай, паўночнай і ўсходняй Польшчы ў Львоў.

# Не лічу перагаворы няўдалымі

**(Размова з Кшыштофам Скубішэўскім, міністрам замежных спраў у Польшчы.**

*— Спадар міністр, пасля візіту ў Мінск у нашай беластоцкай і не толькі беластоцкай прэсе была змешчана інфармацыя ПАПу пра правал перагавораў.*

— Не было правалу, гэта фальшывая інфармацыя.

*— Аднак, як вы аднесліся б да такога сказа: „Беларусь унесла засцярогі да пункта, што польска-беларуская мяжа, існуючая і ўстаноўленая ў тэрыторыі, ёсць непарушная зараз і ў будучыні“.*

— Гэтая мяжа нязменная і непарушная. Я гэта заявіў вельмі выразна ў Мінску. Пазіцыя беларускіх суразмоўцаў не была ясная, бо яны, з аднаго боку, жадалі гэты сказ выкінуць, а з другога боку заяўлялі, што не маюць ніякіх тэрытарыяльных засцярогаў. Гэта не толькі беларусы вырашылі пералажыць падпісанне дэкларацыі, але таксама і мы вырашылі гэта зрабіць. Замест дэкларацыі выдалі камюніке пра далейшыя перагаворы, пра справы, якія гэтага патрабуюць, але праблемы граніцы няма, бо пра граніцу з нікім размаўляць не буду. Гэта ж справа аформлена.

*— І яшчэ адна справа. Наша прэса змясціла вялікія загалоўкі: „Беласточчына — зямля, этнічна беларуская“ і гэта выклікала вялікае ўсхваляванне сярод жыхароў Беласточчыны.*

— Не. Я такой пазіцыі ніколі не меў, не маю і не прыму. На Беласточчыне жыве этнічная беларуская група і мае шмат розных аблягчэнняў, якіх не маюць палякі на другім баку мяжы, палякі, пражываючыя на Беларусі, і мы пра гэтую праблему гаварылі, што палякі не маюць гэтых розных аблягчэнняў, датацый і дапамогі, якія маюць беларусы ў Польшчы. І будзем гэтага дамагацца і гэта робім. Напрыклад, у Беластоку ёсць Дом культуры для беларусаў, а ў Мінску такога чамусьці для палякаў няма. А тым часам у Беларускай Рэспубліцы намнога больш палякаў, як беларусаў у Польшчы.

Мусіце зразумець адно, Беларусь уваходзіць на шлях да незалежнасці. І да таго дзейнічаюць там розныя сілы. І таму трэба размаўляць, бо мусім мець добрыя суадносіны з Беларуссю, гэта наш сусед. Але ніякага пытання гранічнага няма і не будзе! Нават калі б Беларусь была дзяржавай, поўнасцю незалежнай у будучыні, такой, як іншыя еўрапейскія дзяржавы, то яна будзе незалежнай дзяржавай у такіх межах, якія існуюць, бо такі міжнародны закон. Незалежная дзяржава, якая паўстае, паўстае акурат у актуальна існуючых граніцах і не можа спасылацца на тое, што гэтыя межы стварыліся ў выніку ранейшых дагавораў.

Сёння маем гэта ў выпадку аб'яднання Нямеччыны. Ствараецца аб'яднаная Германія, але ў існуючых межах. Так што ніхто ў Беластоцкім ваяводстве не павінен баяцца. Лічу, што прэса занадта ўжо справу раздзьмула, шукаючы сенсацыі. Прашу памятаць аб тым, што ў краін, якія ўваходзяць на шлях суверэннасці (а Беларусь аб'явіла свой суверэнітэт) ёсць заўсёды нейкія праблемы, нейкія цяжкасці. Мы мусім гэта ўспрымаць спакойна, але рашуча. Ніякія польскія інтарэсы не былі парушаны і не будуць. Нельга сказаць, што перагаворы за-

(Працяг на стар. 7)

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 373

# АЛЕСЮ БАРСКАМУ — 60

* * *

Часам здаецца мне,
Што існую я
Па-за светам,
А свет дадаткам
Да маёй асобы.
Я ў сузор'і стаў
Галоўнаю планетай
Са знакам якасці,
З высакароднай пробай,
Але жыццё мяне
Бабах! абухам цвёрдым
І рассыпаецца у попел
Мая пыха.
Жыві, баране, годна,
Ды не горда —
Напамінае сон
Мне ціха.

* * *

Канчаецца мой час
Амаль што нечакана,
Хаця і пазнавата
Ды зарана.
І на дарозе, што вяла
У радасць,
Не ўсе расставіў вехі,
Стаю разгублена,
Бязрадна
Між плачам
І між смехам.
Гляджу на свет,
У яго сэнс я
Веру і не веру
І б'ю ілбом
Ў адчыненыя дзверы.



* * *

І зaраў загон,
І на грудзях яго
Прайшоўся босымі нагамі.
Мае сляды,
Як пацалункі,
Ляглі на ворыўную глебу.
Прыглядзеўся я да зямлі
І да сваіх ступеняў босых
І так не зразумеў,
Дзе бруду больш:
На глебе
Ад маіх ступеняў,
Ці на ступенях
Ад зямлі ўзаранай.

* * *

Мазайка сонечная
На акне.
Ісус Хрыстос прыгожы,
Нібы дэман...
Гляджу, захоплены.
Згінаецца калена
У пакланенні і пакоры.
Але другая простая нага
Напорыстая і у супраціве
І не згінаецца перад Хрыстом.
І так стаю,
Падломаны ў палове,
Крывы, з апушчаным крылом,
Пратэст і апрабата.
Пытальнік горкі,
Клічнік горды.

* * *

На раннім вакзале
чаканне, чаканне!
Чаму мы усталі,
Навошта усталі?
Паўсоннае ранне,
Паўмёртвае ранне
З ног мяне валіць.
А вочы людскія,
Як сонныя труны,
Стаіць абыякавасць
З чорнай лянотай.
Ці мы еўрапейцы,
Ці, можа, мы гуны,
На лаўках вакзальных
Распятыя?
На сонным вакзале
Ў натоўпе самотным,
У хаосе ног
І ў хаосе клункаў,
Чакаючы ў паветры,
Насычаным потам,
Рэйсу Ратунку.

* * *

Шпору пяра
Моцна ўбіваю
У бок Пегаса
З надзеяй убачыць
Кроў перамогі.
І сцякае з пяра
Кропля вадкасці
Паражэння.

* * *

Як сорам нам
Ператварыць у гонар,
Якіх нам трэба горнаў
Ды антрацытаў?
Стаіць сцяна
Ад глебы аж да неба
З надпісам: гора, —
І б'ем ілбом —
Хто з плачам,
Хто са смехам,
Хто шчыра б'е,
А хто фальшыва, —
І прэмся ў еўрапейскі дом
І як пасаг нясем багацце —
Радыяцыю!

**ПАЭЗІЯ**

Ты ўдава,
Я таксама ўдавец
І таму нам
Павінна быць цяжка.
У кожным пачатку —
Канец
І у завязцы — развязка.
А заданне тваё — прастата.
Наш сусвет,
Як турэмная крата.
Скрэслю з верша свайго
Паўрадка —
Як спаліў уласную хату.

* * *

„Долой цветы,
Да здравствует железо", —
Крычалі футурысты
На сустрэчах.
Чаго крычыш,
Нервовы чалавеча?
Ідзі на луг! —
Там пахі і квітненне —
І памаліся кветцы
Мёдадайнай.
А што датычыцца жалеза,
Дык толькі май з яго пяро!
Жыві звычайна так,
Як дрэвы і як травы,
Расці, квітней
І памірай спакойна!

**Алесь Барскі**

## „У БАНДАРАХ — МОЙ АГРАМАДНЫ СВЕТ"

У паўсядзённым жыцці вёскі, мястэчка, горада як быццам няма нічога надзвычайнага, вартага чыёйсьці асаблівай увагі. Але калі ў асяроддзі знойдзецца ўважлівы летапісец і раскажа пра ўсё ў друку — у мастацкіх творах або нарысах — тады падзеі з жыцця вёскі і навакольных мясцовасцей набываюць зусім новае вымярэнне: яны становяцца неспадзявана з'явай гісторыі народа, прытым не толькі тады, калі яны звязаны з нейкімі грамадскімі катаклізмамі, імклівымі зменамі, эпахальнымі працэсамі.

Алесь Барскі наближае да нас жыццё сваёй роднай вёскі Бандары і таго скраўка беларускай зямлі, які прытуліўся да рэчкі Нарвы і адгарадзіўся ёю ад подступаў да Белавежскай пушчы, а зусім блізкай граніцай (да яе ўсяго нейкіх дзесяць кіламетраў) ад Савецкай Беларусі. Ад поўначы ж лясы сцяной аддзялілі ад чыгункі, якая пасля апошняй вайны практычна анямела. І толькі на захад пралягла свабодна дарога, якая жывою, вечна рухавай стужкай звязвае цэлы гурт вёсак з шырокім светам — з мястэчкам Міхалова (якое яшчэ ў 30-я гады было не менш вядомае пад назвай Нязбодка) і далей (за 50 кіламетраў) з Беластокам. Дарога на захад толькі пасля вайны звязала Бандары жывой сувяззю з шырокім светам, бо ў даваенны час у той далёкі ваяводскі цэнтр мужыкі з гэтых вёсак амаль не траплялі.

Вёска Бандары, дзе 2 лістапада 1930 года нарадзіўся Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі), — своеасаблівы куток Беларусі з незвычайна самабытным мікракліматам — этнаграфічным і маральным. Тут да вайны зусім не адчувалася польскага ўплыву, нягледзячы на тое, што дзеці вучыліся толькі ў польскіх школах у суседніх вёсках Рыбакі (4 класы) і Лука (V клас) і што ў гміне (у той самай Луцэ, якую ў наш час ліквідавалі, стварыўшы ў гэтым месцы на Нарве вадасховішча) даводзілася чуць польскую мову.

Вёска Бандары невялічкая (16 дамоў, 20 сем'яў), але ў ёй быў млын паравы, кузня, крама, рабіліся рашоты з лыка ліповага і сіты з конскага валосся (спецыяльнасць роду Баршчэўскіх). А яшчэ займаліся бандаркай. Акрамя таго, у 30-я гады, калі рэчка Нарва была больш паўнаводнай, некаторыя мужчыны ранняй вясной хадзілі на плыты, сплаўлялі лес. На мясцовай гаворцы такі занятак называўся арэлькай.

Нягледзячы на адносную адарванасць ад шырокага свету (а можа нават дзякуючы ёй) вёска жыла самабытным культурным жыццём. Старэйшыя сяляне заўсёды цікавіліся падзеямі на далёкім і блізкім свеце. Ад многіх з гэтых падзей залежаў і лёс вёскі. На памяці толькі аднаго пакалення колькі разоў мянялася ўлада! Была царская Расія, потым з'явіліся немцы. А там усё пачало мяняцца: то немцы, то палякі, то бальшавікі. А затрымаліся тут усё ж такі палякі — амаль на цэлых два дзесяцігоддзі. А ў верасні 1939 года зноў пачалося. Спачатку наблізіліся немцы. Затым менш чым два гады пабыла савецкая ўлада. Пасля трох гадоў фашысцкай акупацыі вярнулася зноў савецкая ўлада, але ўжо на гэты раз — на вельмі кароткі тэрмін. Райваенкамат у Свіслачы паспеў толькі прызваць навабранцаў, але праз дзесяць дзён адпусціў іх дахаты (было гэта ў жніўні 1944 года), нават не растлумачыўшы прычыну. Толькі праз пару тыдняў выпадкова стала вядома, што Бандары — гэта зноў польская тэрыторыя. На ўсход ад вёскі праз тую ж Ялоўку пралегла славутая „лінія Керзана", пра якую нашы гісторыкі добра не ведаюць, што гэта такое. Найбольш блытаюць тыя, што пішуць, быццам яна праходзіць па этнаграфічнай граніцы, якая аддзяляе беларускае насельніцтва ад польскага. На самай жа справе гэтая граніца праходзіць недалёка ад Беластока, гэта значыць, больш чым за паўсотні кіламетраў на захад. І таму пасля вайны на Беласточчыне засталося каля трохсот тысяч беларусаў.

Як бы там ні было, але гістарычная памяць народа цвёрда засвоіла тое, што ўлады, якімі б вечнымі яны ні ўяўляліся, часта мяняюцца, а людзям трэба жыць, хто б на гэту зямлю ні ступіў. І ці не таму ў народным асяроддзі выпрацаваўся нейкі непахісны маральны кодэкс, які не аглядваўся ні на дзяржаўныя, ні на царкоўныя нормы, а перш за ўсё на традыцыі, на выразнае ўсведамленне абавязкаў і неабходнасці пашаны правоў кожнага чалавека, на асуджэнне праяў анархіі, самавольства, самаўпраўства. Гэты маральны кодэкс дзейнічаў непарушна ў той час, калі панаванне адной улады канчалася, а другая яшчэ не з'явілася.

У даволі вялікай дружнай, працалюбівай сям'і Андрэя Баршчэўскага (Антонавага, бо быў яшчэ ў вёсцы Андрэй Баршчэўскі Аляксееў, па вясковай мянушцы „Культурны"), нарадзіўся, рос і выхоўваўся Шурык, які з цягам часу выбраў сабе літаратурны псеўданім Алесь Барскі. Бацька Шурыка разлічваў, што сын яго будзе даглядаць гаспадарку, бо старэйшым дочкам (а іх было чатыры) самім лёсам было прызначана выходзіць замуж. Гаспадарка дазваляла жыць бязбедна, хоць і без лішняга дастатку.

Аднак Шурык гэтых спадзяванняў не апраўдаў і адправіўся ў шырокі свет на вучобу, на пошукі „мудрасці кніжнай" — такой заманлівай і такой недаступнай усім папярэднім пакаленням вяскоўцаў. Як бы сёння ні характарызавалі той пасляваенны лад у Польшчы, іменна тады, упершыню ў гісторыі краіны і народа, выхадцы з самых нізоў атрымалі рэальнае права на вучобу, на доступ да самых высокіх дзяржаўных пасад. Перад вёскай раптам расступіліся сцены, што адгароджвалі яе ад шырокага свету.

Малады Шурык Баршчэўскі падаўся ў навуку, скончыў Лодзінскі універсітэт і звязаў свой лёс з кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, дзе пачаў працаваць пад кіраўніцтвам праф. Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай. З

(Працяг на стар. 4)

# САКРАТ ЯНОВІЧ
# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

(19)

Сітуацыя, што разгортваецца ў Еўропе і на расійскім кантыненце, выдаецца аднаназначнай для Беларусі: так сказаць, не выкруціцца яна ад незалежнасці... Хоць ёсць у ёй магутныя сілы, якія — нават незнарокам — затрымалі б аспірацыі беларусаў. Аднак, свет радыкальна іншы, чымсьці ў сорак пятым годзе, не кажучы пра — сумны нам — дваццаты. Беларусь цяпер не можа быць часткова рускай і часткова польскай, як было да вайны і раней. Немагчыма таксама пакінуць яе на век у стане зрусіфікаванасці.

Чакаюць Беларусь два этапы: дэкаланізацыі, а потым — самастойнасці. Першы з іх будзе даволі лёгкім, як параўнаўча простым бывае выбіванне ўлады з рук чужынцаў. Цяжэй потым жыць на свой рахунак. А палітыкі часоў змагання акаваюцца непрыдатнымі ў шэрасці дзён будавання (усюды так).

Дэкаланізацыя нашай Бацькаўшчыны пачалася з утварэння Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“, у кастрычніку восемдзесят восьмага. Хапіла паўтара года, каб з мяжы палітычнага фальклору гэты рух перамясціўся на шырокае поле значнасці. Неістотны сваёй лічбаю дэпутацкі корпус фронтаўцаў, што сфармаваўся ў сёлетнія выбары ў парламент Беларускай ССР, праз пару месяцаў павялічыў уплывы аж у некалькі разоў, дабіваючыся вырашальнага голасу ў шэрагу галінах жыцця рэспублікі (напр. у асвеце і культуры).

Беларускае адраджэнне адбудзецца не таму, што яно моцнае, бо гэта няпраўда. Быць яму, бо не быць камунізму. Аніводная таталітарная ідэалогія ў гісторыі чалавецтва не была падатлівай на рэформы, што і немінуча губіла яе. Гарбачову не ўдасца вывесці Камуністычную партыю Савецкага Саюза з глухога завулка; мусіць пайсці ён следам за Ярузэльскім, ліквідатарам польскай партыі (прэзідэнтура падказвае спосаб). Ці знойдуцца ў Беларусі палітыкі падобнага фармату? Не. Каланіяльная адміністрацыя няздольная на вялікасць. Яна — па сваім характары — халопы, лёкаі, эканомы.

Канец рускай мове ў Беларусі прадракае, менавіта, рэакцыйнасць ейных носьбітаў. Рускамоўныя газеты — ворагі беларускай самастойнасці. Іхная жыццяздольнасць ужо палічана. Яны аніяк не разумеюць, што імперыя пахілілася, пясок з яе сыплецца. Толькі беларускае мае перспектыву ў Беларусі.

Рынкавая эканоміка ўплыве на Беларусь дваяка: прыспешыць дзяржаўную эмансіпацыю і запаволіць нацыянальна-культурную. Гэтая асінхронія тыповая для дэкаланізаваных краінаў; знішчожаную гаспадарку заўсёды хутчэй адбудаваць, чымсьці аднавіць затаптаную культуру (у беларускай мовы пакуль што мала кліентаў). Але ці можна ўявіць сабе дзяржаву з несваім культурным і псіхалагічным абліччам? Не, бо гэта было б для яе смяротным калецтвам. Беларусі ж наканавана жыць і жыць!

Як ні вычварай, рускі асімілянце, усё роўна палезеш у беларускую трубу. Калі не ты, дык дзеці і ўнукі твае. Дзяржава — гэта дзяржава. А яна — Беларуская.

Будуць праблемы з этнічна беларускімі правінцыямі ў суседніх дзяржавах: са Смаленшчынай у Расіі, з Латгаліяй у Латвіі, з Віленшчынай у Літве, і з Беластоцкім Краем у Польшчы. Можа быць, і з Чарнігаўшчынай ва Украіне. Бо — Беларусь ёсць дзяржавай унутры свайго этнасу.

*(Заканчэнне ў наст. нумары)*

## Помнікі культуры
## Царква ў Ставішчах



З незапамятных часоў у Палаўцах (сёння яны за граніцай, у БССР) была прыхадская царква, пасвячаная ў гонар Цуда святога Архістраціга Міхала ў Хонях. Дзень гэтага святкуецца 6 (19) верасня.

Згодна з епархіяльнымі пастановамі з 1875 года, у склад Палавецкага прыхода ўваходзілі наступныя вёскі: Пяшчатка, Голя, Сухадола, Хлевішчы, Тарэхі, Волька, Ставішчы, Палаўцы і маёнтак Палаўцы.

Пасля II сусветнай вайны Палавецкі прыход перасекла дзяржаўная граніца. Царква апынулася ў БССР, а вёскі: Палаўцы, Тарэхі, Волька і Ставішчы — у Польшчы. Былі яны далучаны да прыходаў у Кляшчэлях і Зубачах. З вёскі Ставішчы даволі далёка ў Зубачы і таму яе жыхары пастанавілі выдзеліць пляц пад могілкі, а ў 1960-ыя гады прыступілі да пабудовы царквы, таксама ў гонар Цуда святога Архістраціга Міхала ў Хонях (верхні здымак). У 1980-тыя гады царкву разбудавалі (ніжні здымак). Сёння яна вельмі задбаная.

На жаль, хваля злачынства, якая пракацілася амаль па ўсіх цэрквах на Беласточчыне, не абмінула царкоўку ў Ставішчах. У жніўні гэтага года злачынцы ўкралі каштоўнейшыя іконы.

**Р. С.**



# „У БАНДАРАХ - МОЙ АГРАМАДНЫ СВЕТ“

**цягам часу сам стаў кіраўніком гэтай кафедры. І заваяваў там такі аўтарытэт, што калі ў 1980—1981 гадах склаліся для яго вельмі неспрыяльныя абставіны, то студэнты і большасць выкладчыкаў тайным галасаваннем выказалі яму давер і не дазволілі вызваліць яго з займаемай пасады. З-за таго, што ён непахісна абараняе правы на беларускую мову і культуру, згушчаюцца хмары над ім і сёння. Нейкая дама напісала ў высокія інстанцыі данос на яго, абвінаваціўшы ў беларускім нацыяналізме. Але трэба спадзявацца, што, нягледзячы на такія праявы сталінізму (што вяртаецца з чорнага ходу і пад новай шыльдай), ён будзе дамагацца свайго з такой жа рашучасцю, як і раней.**

**Даводзіцца Аляксандру Баршчэўскаму зарабляць на хлеб надзённы выкладчыцкай дзейнасцю, займацца даследчыцкай працай, але галоўным яго прызваннем аказалася паэзія. У першых яго творах улаўліваюцца водгукі рэвалюцыйнай рамантыкі, боязь адарвацца ад традыцый польскай і беларускай паэзій. Узнёслы настрой маладога паэта выявіўся ў вершы „Белавежскія хлопцы“. Гэта — нешта накшталт оды юначаму нявурымсліваму запалу і нястрымнасці ў працы, у каханні да дзяўчыны, у пачуцці злітнасці з роднай зямлёй. Тыповым для тагачаснага светаўспрымання аўтара можна лічыць верш „Моладзі“:**

**Вам свецяцца зоры краіны,**
**Вам сонца вясною іскрыцца...**
**. . . . . . . . . . . . . .**
**Вам несці паходню над краем,**
**Вам цемру з кутоў усіх рассеяць.**
**Хай твары усмешкай лунаюць**
**І вочы надзеяй квітнеюць.**

**Першы паэтычны зборнік „Белавежскія матывы“, што пабачыў свет у Беластоку ў 1962 годзе, засведчыў, што малады аўтар умее не толькі пераймаць традыцыйныя ўзоры мастацкай творчасці, але і знайсці сваё свежае слова, адметны вобраз, каб увасобіць у ім шчырае пачуццё юнака, які ад душы цешыцца маладым жыццём, правам выбіраць любую дарогу, кожная з якіх вядзе толькі да шчасця. Ён жа любуецца красой і багаццем роднай прыроды, увасабленнем якой служыць такі блізкі і такі загадкавы — найбольшы ў Еўропе — лясны масіў Белавежскай пушчы.**

**Белавежская пушча жыла ў свядомасці жыхароў вёскі як нешта непаўторнае, велічнае і ў той жа час недалёкае. Нейкіх дзесяць кіламетраў — адлегласць ніколі не лічылася вялікай. А для Алеся Барскага пушча стала адным з сімвалаў, адным з увасабленняў велічнасці і славы яго Радзімы, пераемнасці эпох і стагоддзяў.**

**Ужо ў першым зборніку вызначаліся асноўныя напрамкі мастацкавобразных пошукаў, асноўныя тэмы паэтычнай творчасці. Тут ганаровае месца займаюць малюнкі неўміручай красы наднарвянскай прыроды, матыў сыноўняй вернасці роднай зямлі. І выяўляецца нейкая асаблівая вобразная адметнасць, такая асацыятыўнасць, якая на першы погляд можа і насцярожваць, але, калі ўдумацца, то адчуваецца яе апраўданасць:**

**Сярпом падрэзаў месяц веццe,**
**Прагнаў у цішы стада зорак,**
**Знерухамеў, глядзіць і свеціць,**
**Маўчыць, нічога не гаворыць.**
**(„Гасцінец“)**

**Толькі ў песняра сялянскай нівы на ганаровым месцы ў паэтычным радку акажацца серп або статак.**

**Паслядоўна ад аднаго паэтычнага зборніка да наступнага, а іх у Алеся Барскага пяць (акрамя „Белавежскіх матываў“, яшчэ „Жнівень слоў“, Беласток, 1967, „Мой бераг“, Мінск, 1975, „Блізкасць далёкага“, Беласток, 1983, „Лірычны пульс“, Мінск, 1987), мастацкі вобраз станавіўся ўсё больш трапным, і адначасова асацыяцыі ператвараліся ва ўсё больш складаную сістэму вобразаў.**

**У вершах апошняга зборніка „Лірычны пульс“ мы знойдзем шмат чаго: і тонкае адчуванне гармоніі гукаў, і ледзь улоўную, то зноў надзіва багатую асацыятыўную пераклічку пачуццяў чалавека і з'яў прыроды, і філасафічнасць. І адно толькі не змяняецца: паэт заўсёды застаецца „з зямлёю роднаю ў вечным ладзе“, як сказана ў вершы „***Каб не забыць...“.**

**У адных творах на чытача ўздзейнічае гармонія радка, яго меладычная напеўнасць, а ў іншых — нечаканы паэтычны вобраз, пазбаўлены такіх колішніх традыцыйных атры-**

 

# Новая палітыка (кадравая) у Бельску

**(Працяг са стар. 1)**

*jako coś gorszego, utożsamia się z Ruskimi, przecież też mamy swoją kulturę narodową, swoją historię. Dlaczego tego nikt nie chce dostrzec?*

Размову з групай працаўнікоў Гарадской управы ў Бельску я правёў 16 кастрычніка. З гэтай размовы хачу прывесці факты і акалічнасці, якія істотным чынам дапаўняюць і пашыраюць вобраз „закалоту“ ў кадрах Гарадской управы, які зрабіў бурмістр Казімеж Ляшчынскі.

З днём 31 ліпеня павесткі аб звальненні з працы атрымалі 5 асобаў, з днём 31 жніўня — 12 асобаў, з днём 30 верасня — 6 асобаў. Усе — з трохмесячным папераджальным тэрмінам. Усе — праваслаўнага веравызнання. Спадарожнічала гэтым звальненням асаблівая „тактыка“ новага бурмістра: распачаўшы сваю працу, бурмістр склікаў на нараду кіраўнікоў рэфератаў, на якой запэўніў іх, што аніякіх кадравых зменаў у Гарадской управе не будзе; некалькі дзён пасля таго бурмістр тое ж самае паўтарыў усім працаўнікам Управы. Але пасля першых звальненняў, на сходзе ўсіх працаўнікоў, ён паведаміў публічна, што ва Управе „будуць працаваць нашы і давераныя, бо дагэтуляшнім працаўнікам ён не верыць“. Не чакаючы, пакуль міне трохмесячны тэрмін, бурмістр пачаў прымаць на працу „сваіх давераных“. У Бельску, тыповым малым гарадку на правінцыі, усе, як кажуць, „ведаюць амаль усё аб усіх“. Таму ніхто не абмінуў увагаю таго, што ўсе новапрынятыя на працу — каталікі. Ніхто таксама не абмінуў заўважыць, што новыя працаўнікі ў большасці не маюць адпаведнай адукацыі і падрыхтоўкі да працы ў Гарадской управе. Ці ж трэба тут яшчэ тлумачыць, што гэтыя кадравыя змены ўспрымаюцца жыхарамі Бельска (і каталікамі, і праваслаўнымі) у першую чаргу як выраўнаванне „нацыянальна-рэлігійнага патэнцыялу“ ў кадрах Гарадской управы? Стыль, у якім праводзяцца кадравыя змены ў Бельску, не пакідае сумненняў наконт характару новае гарадское ўлады: пра дэмакратыю ніякай гаворкі ў бліжэйшай будучыні не будзе. Дык навошта тады дэмакратычныя выбары, навошта ў Бельску Гарадская рада і 28 радных у ёй? Пра бельскую гарадскую раду і яе працу яшчэ прыдзецца нам пісаць асобна, адзначым толькі, што радных-каталікоў у ёй 16, а радных праваслаўных — 12. Нават калі б бурмістр звярнуўся за кансультацыяй у Раду наконт кадравых зменаў, то яе вынік загадзя можна прадугледзець: 16:12 за такімі зменамі, якія ён праводзіць. У Бельску ўжо кружыць анекдот пра раду ды ўвогуле пра нацыянальную і рэлігійную сітуацыю ў горадзе. У шмат якіх установах апроч дзяржаўнага гербу на сценах памяшкаюцца крыжы: каталіцкі і праваслаўны. Людзі кажуць, што прапорцыя памераў каталіцкага і праваслаўнага крыжоў павінна раўняцца 16:12...

На спатканні з працаўнікамі бельскага раёна і з прадстаўнікамі ўладаў горада ды навакольных гмінаў беластоцкі ваявода сцвердзіў, што зараз у палітыцы ў Бельску наглядаецца „амерыканскі стыль“: прыйшлі да ўлады прадстаўнікі аднае сілы (цяжка тут вырашыць, рэспубліканцы ці дэмакраты) і ствараюць сваю адміністрацыю. І ўсё... Прыйдуць да ўлады іншыя, яны будуць ствараць сваю...

Болей ясна растлумачыў сітуацыю адзін з каталіцкіх ксяндзоў сваёй пастве, занепакоенай цяжкімі эканамічнымі абставінамі і перспектывай беспрацоўя. Чутка гэтая зараз жа абляцела ўвесь Бельск, але анекдотам назваць яе не даводзіцца... У Бельску, казаў ён, з увагі на асаблівую канфесійную сітуацыю, католікі не павінны баяцца беспрацоўя: тут ёсць шмат праваслаўных, якіх звольняць, каб працу мелі іхнія браты-католікі...

І ўсё...

**Ян Максімюк**

# БАБАХ!

**(Працяг са стар. 1)**

*— nie więcej niż 7 dyrektorów w przedsiębiorstwach jest katolikami* (panowie, postęp jest wyraźny, można rzec, wzrost o 350 proc.),

*— w szkołach nie zaszły żadne zmiany* (to przykre!),

*— w Urzędzie Miasta pracuje 26 prawosławnych i 25 katolików* (być może to jeszcze nie to, ale ogólny trend polityki kadrowej jest optymistyczny),

*— W Urzędzie Gminy natomiast na 45 zatrudnionych jest jedynie 6 katolików* (Божа, Ты чуеш?!).

*Jesteśmy przeciwni traktowaniu ludności prawosławnej przez Pana Posła Wł. Cimoszewicza jako sublokatorów w naszym kraju.*

Я — таксама супраць. Але, адчуваю гэта зусім падсвядома, па іншых прычынах, чымсьці салідарніцкія райцы з Бельска... Бо пачытайма далей:

*Powody naszego stanowiska są następujące:*

*1. Przynależność kościelna nie ma żadnego związku z narodowością* (на Месяцы — безумоўна, але ў Бельску???!!!).

*2. Ludność prawosławna Podlasia nie jest mniejszością narodową lecz rdzenną ludnością polską zruszczoną i przypisaną pod przymusem do kościoła prawosławnego podczas zaboru rosyjskiego* (sic! пук!).

Шанцы для беларусаў у Бельску — нулявыя. Я б сказаў, што і для руска-ўкраінцаў не нашмат большыя.

*3. Cała ludność prawosławna ma rdzennie polskie nazwiska, a Pan Cimoszewicz nosi nie tylko polskie ale szlacheckie nazwisko.*

To się nazywa załatwić kandydata lewicy demokratycznej na prezydenta! Lud pracujący wsi i miast będzie głosował na szlachciuka?! Ja osobiście wolę elektryka. А, гаворачы сур'ёзна, дзе мой герб, дарэчы? Пан Яновіч, паны Мірановічы, дзе вашы шляхецкія гербы і граматы, ядры вас у дыхаўку?

*4. Przy redukcji zatrudnienia* (panowie, czy to była redukcja?) *zastosowano kryteria przydatności do rodzaju wykonywanej pracy zarówno pod względem wykształcenia* (to zrozumiałe, wykształcenie zatrudnianych dopasowywano do zawodowego wykształcenia burmistrza) *jak i dotychczas osiąganych wyników* (w czym?), *a nie kryteria wyznaniowe.*

*Panie Pośle! Na przyszłość prosimy o uwiarygodnienie swojego wystąpienia na ten temat poprzez powołanie się na przykład zaczerpnięty z SB. Tam nie było żadnego katolika* (nieprawda, ja byłem w SB i jestem katolikiem — сказаў мне...).

Бабахнулі і пеканулі ў Бельску. І рэха павінна адгукнуцца... Бельскія райцы просяць апублікаваць іхнюю эпістолу ў „Трыбуне“, „Кур'еры Поранным“, у Польскім радыё і тэлебачанні і ў радыё „Вольная Еўропа“.

16:12. Horror! Horror!

**Ян Максімюк**

### САБОР ЕПІСКАПАЎ

18 і 19 кастрычніка г.г. у Варшаве адбыўся Сабор епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У час Сабора абмяркоўвалася сітуацыя Царквы ў змяняючыхся грамадскіх і палітычных умовах у нашай краіне і ва ўсім свеце. Епіскапы прааналізавалі экуменічны дыялог паміж Царквою ды Рымска-каталіцкім касцёлам і іншымі веравызнаннямі. Больш увагі прысвяцілі яны сітуацыі Царквы ў Італіі.

На другі дзень абмяркоўваліся ўнутраныя справы Царквы, у тым ліку выезды святароў за граніцу і сітуацыя ў духоўных школах. Вырашана прыйсці з дапамогай бедным прыходам у дыяспары. У справе Грабаркі прынята пастанова аб'явіць конкурс на архітэктурнае ўпарадкаванне Святой Гары і на канцэпцыю пабудовы новай царквы.

**(л)**

---

**бутаў верша, як размераны рытм і прычасаная рыфма:**

**Твой дотык**
**Да цела майго —**
**Гэта дотык крэсіва**
**Да крэменя.**
**Даткнешся —**
**І я адзываюся**
**Іскрай.**

**І толькі не знойдзем у паэта беззмястоўнай ігры слоў, ад якіх чытачу не холадна і не горача.**

**Алесь Барскі — паэт з ласкі Божай. А яшчэ ён і даследчык роднай літаратуры, і яе папулярызатар, і фалькларыст, і перакладчык, і публіцыст, і педагог, і аўтар дапаможнікаў па беларускай літаратуры і фальклоры для студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Ён меў падставы сказаць пра сябе ў адным з вершаў, што ён „у храме навукі не лішні“.**

**Публікаваў на польскай мове фальклорныя зборнікі „Д'яблава скрыпка“ (казкі са збору Міхала Федароўскага „Люд беларускі...“, Варшава, 1973), „Невычэрпны збан“ (казкі зямлі Мінскай, Смаленскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Палесся, Варшава, 1976), „Зачараваныя барвы стэпу“ (казкі ўкраінскага народа, 1987).**

**Як перакладчык Алесь Барскі дбае перш за ўсё пра дакладную перадачу не толькі зместу, але і найглыбейшага сэнсу і таго, што мы называем духам твора. Гэтая якасць асабліва поўна вызначалася ў перакладзе паэзіі. Алесь Барскі, у прыватнасці, таленавіта пераклаў творы Янкі Купалы, у тым ліку паэму „Яна і я“. Па майму перакананню, іменна яму найлепш удаўся пераклад верша „А хто там ідзе?“ на польскую мову. Гэтую акалічнасць варта падкрэсліць таму, што на працягу сямідзесяці гадоў такіх перакладаў было не менш сямі (калі не больш).**

**На працягу многіх гадоў Алесь Барскі друкуе ў „Ніве“ рэпартажы, успаміны, публіцыстычныя артыкулы, эсэ пад агульнай рубрыкай „На мяжы“. Тут мы знойдзем усё: і ўспаміны з далёкіх гадоў, і нарысы пра падарожжы ў Сібір або ў другі канец свету — у Злучаныя Штаты Амерыкі. То зноў з'яўляюцца ў друку разважанні аб найбольш набалелых праблемах жыцця Беласточчыны. Да такіх, безумоўна, адносіцца праблема існавання роднай мовы, трывожнага лёсу нацыянальнай свядомасці беларусаў.**

**Сцэны з жыцця Бандароў, як кадры нейкай хронікі, ажываюць ва ўспамінах Алеся Барскага — і з тых часоў, калі ён быў малым хлопчыкам, і з больш позніх перыядаў, калі ўжо ён выбраўся ў шырокі свет на вучобу, работу ды і шматлікія вандроўкі па чужых краінах.**

**У нарысах „На мяжы“ на першы план вылучаецца асоба аўтара, апавядальніка, яго ўнутраны свет, выношаныя ім маральныя прынцыпы, яго заўсёдны абавязак нізка пакланіцца чалавечай сумленнасці, працавітасці, шчырасці, яго непрымірымасць да чыноўніцкага ці звычайнага бытавога хамства, вандалізму — усяго таго, што сведчыць аб калецтве душы чалавека. Нарысы ствараліся з жаданнем узбагаціць унутраны свет чытача, зрабіць яго хоць трошачку больш чалавечым, уважлівым да людзей, беражлівым і сумленным у жыцці, бескарыслівым ахоўнікам роднай прыроды і нацыянальнай культуры і перад усім — патрыётам роднага краю. У гэтым — найбольшая каштоўнасць кароценькіх замалёвак, без якіх цяжка было б уявіць сабе штотыднёвік „Ніва“.**

**Алеся Барскага сёння добра ведаюць у кожнай мясцовасці на Беласточчыне. Ён — жаданы госць у беларускіх ліцэях, школах, цэнтрах беларускай культуры. Ён карыстаецца заслужаным і бясспрэчным аўтарытэтам як паэт, грамадскі дзеяч, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, як чалавек цвёрдых перакананняў. Ён добра вядомы як аўтарытэтны прадстаўнік беларускай культуры ў тых далёкіх і блізкіх замежных краінах, куды даходзіць беларускае друкаванае слова з Беласточчыны — перш за ўсё ў Злучаных Штатах Амерыкі і Вялікабрытаніі. Асабліва часта ён наведвае Савецкую Беларусь і як беларускі паэт (ён з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў) і як выкладчык беларускай літаратуры Варшаўскага універсітэта.**

**Мне хацелася б асабліва падкрэсліць, што як бы ў Савецкай Беларусі ці ў Польшчы ні мянялася палітычная сітуацыя, Алесь Барскі ніколі не аглядваўся на ўяўленні некампетэнтных чыноўнікаў ад палітыкі і культуры ў сваёй ацэнцы нашага гістарычнага мінулага. Ён знаёміў сваіх студэнтаў з творчасцю Алеся Гаруна яшчэ ў той час, калі ў Савецкай Беларусі яна была недальнабачным чыноўніцтвам забаронена. Не аглядваючыся на нашы афіцыйныя інстанцыі, ён заўсёды аддаваў належнае такім заслужаным дзеячам беларускага народа, як, напрыклад, браты Луцкевічы. У гэтым сэнсе ён заўсёды апярэджваў час, бо так патрабавала яго грамадзянскае сумленне, усведамленне ім патрыятычнага абавязку перад нацыянальнай культурай, а гэтым самым — і перад гісторыяй.**

**УЛАДЗІМІР КАЗБЯРУК**



 

паюць грошы ад асобных людзей і ўстаноў, вельмі часта прыходзяць грошы зусім безыменна, ад сэрца проста, хочуць людзі, каб дзецям ні ў чым не было недахопу. Здаралася, што з цэлага вялікага прадпрыемства жанчыны адракаліся ад падарункаў на 8 сакавіка і ўсе прызначаныя на гэта грошы перадавалі дзецям. Прывозяць падарункі прадстаўнікі касцёла і царквы. Частым госцем тут бывае айцец Баравік з праваслаўнай парафіі ў Дайлідах. Са сваімі вырабамі прыязджаюць рамеснікі (напрыклад, з Ломжы рэгулярна дзіцячы дом атрымлівае дармовыя пялёнкі для малышоў). Польска-замежныя фірмы з Галандыі, Бельгіі і іншых краін таксама прысылаюць адзенне і іншыя патрэбныя рэчы. Нядаўна перадала ў дзіцячы дом шмат патрэбных рэчаў прадстаўнічка фірмы „Коміндэкс" Тэрэса Макарэвіч.

А знаёмая нам фірма „Сонполь" прывезла дзецям некалькі скрынак паўднёвага салодкага вінаграду — 102 кг. Хопіць, каб пачаставаць усіх дзяцей. Пры нагодзе Пётр Прышчэпка запрашаў дом дзіцяці купляць у яго фірме па гуртовых цэнах сродкі для ўтрымання чысціні — розныя парашкі, пасты, мыла і іншыя рэчы, якімі гандлюе фірма.

Нядаўна ўвайшлі ў жыццё новыя ўрадавыя пастановы, якія ствараюць фірмам заахвочванне аддаваць частку прадукцыі на харытатыўныя мэты. Дзяржава падтрымлівае людскую міласэрнасць. Маем надзею, што знойдуцца людзі, якія будуць памятаць пра дзяцей, для якіх лёс аказаўся такім бязлітасным і трагічным зусім не па іх віне.

Хворым дзецям, часта калекам, патрэбна наша сэрца і канкрэтная фінансавая дапамога. Памятайма пра гэта. Няхай хоць дробнымі, невялічкімі падарункамі рассветлім іх шэрую, балючую будзённасць.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

# Не лічу перагаворы няўдалымі

**(Працяг са стар. 2)**

кончыліся няўдачай, бо ж мы вялі доўгія размовы пра розныя справы і гэта толькі пачатак перагавораў. Нельга ж чакаць, каб зараз у самым пачатку былі вынікі, калі Беларусь мае такія ці іншыя да нас прэтэнзіі ці патрабаванні. Як, пэўна, ведаеце, маюць яны прэтэнзіі наконт падпальвання цэрквaў, ці другія справы. Гэта ім трэба спакойна растлумачыць і гэта мы робім. Але і ў гэтай справе ў Беластоцкім ваяводстве баяцца няма чаго.

*— Спадар міністр, яшчэ адно пытанне. Ці гэта праўда, што многа разнагалосся выклікала справа рэлігіі: Праваслаўная царква ў Польшчы і Каталіцкая на Беларусі?*

— Праўда, аб гэтым ішла гутарка. Я прыняў вельмі ясную пазіцыю, што мусіць быць рэлігійная свабода, і ў гэтай справе на Беларусі палепшылася, бо польскія святары ўжо прыязджаюць. Зараз іх там ёсць нейкая колькасць. Служаць імшы, здабываюць памалу назад розныя святыні, значыць, маем прагрэс, калі глядзець, што было некалькі гадоў таму назад. Беларусы маюць засцярогі, што гэтыя святары служаць імшы па-польску. Я на гэта адказаў: а як маюць служыць, калі вернікі польскай мовы, гэта ж палякі. Але для беларускіх вернікаў ёсць або будуць малебны на беларускай мове, і нашыя святары, якія туды прыязджаюць, вывучаюць беларускую мову або яе ўжо ведаюць.

Цяпер, калі гаварыць пра Праваслаўную царкву ў Польшчы, якой яна мае быць, то ж царква можа быць розная, аўтакефальная, такая ці другая, падначалена таму ці іншаму патрыярху... Мы ў гэтыя справы не ўмешваемся. Урад не займаецца арганізацыяй царквы. Урад не ўмешваецца, якія малебны адбываюцца і хто якой царквой уладарыць і гэта мусіць сабе аформіць сама Праваслаўная царква ў Польшчы.

*— Значыць, жыхары Беласточчыны могуць быць спакойныя і гэтая паніка выкліканая...*

— Абсалютна могуць быць спакойныя. Прэса зрабіла неразумную паніку. Я зусім не лічу гэтыя перагаворы няўдалымі. Была ж яшчэ другая прычына, чаму не была прынята дэкларацыя, менавіта галоўная, вы павінны зразумець адно — там ёсць урад, які знаходзіцца пад ціскам апазіцыі, бярэ там верх нацыяналізм, што, натуральна, дрэнна, гэта я выразна сказаў. У Еўропе няма месца для нацыяналізму.

Але ўрад знаходзіцца пад рознымі ціскамі з боку тамашняй апазіцыі, якая мае розныя напрамкі. Проста ўрад лічыць, што такая польска-беларуская дэкларацыя найперш была б паддадзена дыскусіі ў мясцовым Вярхоўным Савеце, у мясцовым парламенце. Калі ласка, што за розніца, ці гэта дэкларацыя будзе падпісана крыху раней, ці крыху пазней. Галоўнае, каб вяліся перагаворы і каб высветліць справы, якія выклікаюць разыходжанні. Бадай жа Беларусі вельмі важна, каб наладзіць адносіны з намі. Я хутчэй добрай думкі, што пасля далейшых перагавораў усё нейк уладзіцца, а пакуль што прынялі мы супольнае камюніке, якое заключае нейкія дамовы, але акурат аб гэтым прэса не пісала, прэса выбірае сабе тое, што ім выгадна дзеля іхных розных сенсацый, і непатрэбна зусім страшыць грамадскую апінію — але гэта ўжо справа адказнасці. Прашу быць спакойнымі, я сцерагу польскія інтарэсы ўдзень і ўначы і памятаю таксама пра інтарэсы палякаў у Беларусі.

*— Дзякуй вам вялікі!*

— Не забуду пра Беласток. Прывітанні.

Гутарыў **У. Праховіч**




**(Працяг са стар. 6)**

адукацыя, падняўся крык і плач за народнай уладай.

Думаю, добра сталася, што рэлігія вярнулася ў школы. Я сам вывучаў рэлігію ў школе і ў педагагічным ліцэі пад канец пяцідзесятых гадоў. Навука запамяталася мне на ўсё жыццё. Можна сказаць, што рэлігія навучыла мяне быць гуманістам і беларусам.

Думаю, што царква можа дапамагчы вярнуць нацыянальную свядомасць беларусам, свядомасць безупыннасці праваслаўна-беларускай культуры.

**М. Куптэль**

## КАТЫ І ВЕШАЛЬНІКІ

На сесіі Гміннай рады ў Белавежы, якая адбылася 2 кастрычніка г.г., я пазнаёміў радных з артыкулам Я. Міршновіча. „Гэтым разам каты і вешальнікі" („Ніва" ад 12 жніўня г.г.). Рашучая большасць радных выказала сваё абурэнне антыбеларускай істэрыяй на старонках „Тыгодніка Беластоцкага", выдаванага мясцовай „Салідарнасцю". Адначасна хачу прыпомніць, што беларускі народ, насяляючы гістарычнае Падляшша, з'яўляецца нашчадкам усходнеславянскіх плямёнаў дрыгавічоў і бужан, якія былі тут ужо ў VII стагоддзі.

І хаця беларускі люд быў на працягу стагоддзяў нявольны іншымі народамі, аднак зберог сваю мову, веравызнанне, культуру. Да сёння, нягледзячы на многія дэфармацыі, захаваліся гістарычныя назвы гарадоў, мястэчак, вёсак, рэк, урочышчаў. Дайшлі да нашага часу прыказкі, легенды. Ахоўваецца і культывуецца фальклор.

Ад імя сваіх выбаршчыкаў і свайго ўласнага хачу запэўніць, што беларускія справы былі і будуць важным фактарам у маёй далейшай дзейнасці.

Радны Гміннай рады
ў Белавежы
**М. Дулько**

жынскага раёна, айцец Уладас Пятрайціс, настаяцель касцёла ў горадзе Міёры на Віцебшчыне (хаця, трэба адзначыць, па нацыянальнасці ён літовец) і я.

Што мяне да гэтага пакіравала? У кастрычніку мінулага года я разам з а. Чарняўскім быў запрошаны на канферэнцыю „Тысячагоддзе хрышчэння Беларусі і беларускі народ" у Лондане. Арганізатарам была беларуская каталіцкая місія, якую ўзначальвае а. Аляксандр Надсон. Там было шмат духавенства і вернікаў з розных краін свету: Аўстраліі, Амерыкі, Францыі, Бельгіі, Іспаніі, Канады і іншых. І там прадстаўнік Ватыкана сказаў мне: „Трэба, каб на Беларусі родная мова была чуваць у святынях не толькі ў адным Вішнеўскім касцёле. Варта і вам, айцец Ян, паследаваць гэтаму прыкладу". З таго часу я малюся ў касцёле па-беларуску. Людзі старэйшага ўзросту, якія прызвычаіліся да польскае, глядзяць на гэта негатыўна, але ж моладзь задаволена, што цяпер усё разумее.

*— У канцы мінулага года адбыліся дзве вялікія падзеі. Першая — святкаванне ў трэці раз Дзядоў на Беларусі. І тут Вы бралі самы чынны ўдзел. Я сувязі з чым Вы вырашылі, што ў гэты дзень Вам трэба быць у Курапатах і асвяціць крыж?*

— Мне як чалавеку, які нарадзіўся на Беларусі, у якога таксама ў сям'і ёсць пацярпеўшыя ў гады сталінскіх рэпрэсій, было гэта вельмі блізкае. Я пайшоў туды з благаславення нашага цяперашняга біскупа, апастальскага адміністратара Тадэвуша Кандрусевіча. Мне самому ляжала на душы, каб гэта болей не паўтарылася, гэтыя жудасці, якія зведалі на сабе людзі. Між іншым, у гэтым годзе на Беларусь прыязджаў каталіцкі святар з Польшчы, які і нарадзіўся там, як кажуць, плоць ад плоці, кроў ад крыві сам, але вельмі станоўча і добра ставіцца да беларускага. Ён таксама лічыць, што ў нашых святынях павінна выкарыстоўвацца беларуская мова. І вось мы з'ездзілі з ім у Курапаты, вазіў я яго і ў Катынь пад Смаленскам, каб паказаць, дзе пахаваны ахвяры сталінізму — польскія афіцэры. У Курапатах ён узяў сабе на памяць тры каменьчыкі з гэтых магіл.

*— І другая падзея, што адбылася пасля, — святкаванне ў беларускай каталіцкай святыні ўгодкаў забойства уніяцкага біскупа Кунцэвіча. Чаму Вы, каталіцкі святар, звярнуліся да асобы уніяцкага святога?*

— Я скажу, што ён не толькі уніяцкі святы. Гэта — каталіцкі святы. Бо што значыць уніяцтва? Гэта каталікі ўсходняга грэчаскага абраду. І святы Юзафат Кунцэвіч — гэта наш каталіцкі святы, дарагі як католікам лацінскага абраду, так і грэка-католікам.

*— Мяркуюць, што корань нашых бедаў у тым, што адну веру ў нас забралі, другая аказалася фальшывай, — мы прыйшлі ў рэшце рэшт да таго, што верыць няма ў што... Дзе, па-Вашаму, выйсце з гэтага становішча?*

— Вельмі проста. Азірнуцца крышачку назад, паглядзець і прыгадаць, як жылі нашыя продкі, бацькі. Таму, скажам, і Дзяды... Свята было заснавана на тое, каб успомніць сваіх памерsuccessful продкаў, каб рабіць у жыцці добрыя ўчынкі, як гэта рабілі яны. Чалавек, які мінулага свайго не памятае, які далёкі ад гэтага, які топча яго, — той варты жалю. Такога чалавека трэба шкадаваць, бо яго сэрца не кранула міласэрнасць.

*— Вы ўжо шмат паспелі, айцец Ян, пабачыўшы за сваё жыццё. І да якой высновы Вы прыйшлі; да чаго нам варта імкнуцца?*

— Да веры, да міласэрнасці. Да любові да бліжняга. У гэтым сэнсе і добрыя адносіны, добразычлівасць, спагада на чужыя болі, трывогі, на чужыя патрэбы. Ну і таксама памятаць, хто мы. Людзьмі звацца. Каб не выракацца свайго, сваёй мовы, нацыі, традыцый. Вось, мне думаецца, у чым сэнс і мэта нашага жыцця.

Гутарыў **Ул. Пучынскі**

**P.S.** Гэтае інтэрв'ю было ўзята крыху раней. У міжчасе ў жыцці а. Яна Матусевіча адбыліся змены. Зараз ён працуе грэка-каталіцкім святаром у Мінску.

Зорка
старонка для дзяцей



*Першакласнікі з Храбалоў са сваёй настаўніцай Раісай Лесніх.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

Янка Целушэцкі

## У грыбную пару

Алесь устае рана, як толькі ноч пабялее на ўсходзе. Хуценька збіраецца ў лес па грыбы. Бярэ ў кішэнь акраец хлеба, у кош кладзе нож.

Яшчэ цемнавата. Усюды плавае нізкі, мутны туман. Праз яго не відаць ні кустоў, ні дарогі. Птушкі прачнуліся ўжо.

У лесе змрочна і сыра. Ад прахалоды хлопец ажно ўздрыгвае і спяшаецца. Неўзабаве зварочвае з асфальту і ступае па лісці, іглiцы. Пад нагамі прыемна-падатліва спружыніць мох.

У лесе ўперамешку кашлатыя елкі ды імшыстыя сосны, бярэзнік, а яшчэ стаўбуны ядлоўцу. Ураз Алесь чуе недзе збоку доўгае і гучнае: „Ау-у-у!“ Ён нырае ў непралазны гусцеж — спрэс адны елкі. Дзяцел сядзіць на самай макавушцы, высока, дзяўбе ў кузні хваёвую шышку, ласуецца семкамі.

А галасоў усё больш і больш. Ад іх аж галосіць лес.

— Ауу!

— Уаа!

Алесь пільней глядзіць сабе пад ногі. Ля кожнага натапыранага ліста, ля кожнага кусціка і купінкі. Нечакана як не спатыкаецца аб грыб. Ён вызбіўся з зямлі і яшчэ мокранькі ад натугі. Ладны ядраны трафей. Чым далей у лес, тым больш грыбоў: белых, паджарых, з чорнымі тоўстымі шапкамі ды зусім малюсенькімі карпунцамі.

Сонца паднялося высока. Хлопец азіраецца і паварочвае назад дадому. Топча верас, ягаднік. У лесе пахне лісцем, грыбамі, зямлёю. Вось на самы ніжні сук спусцілася цікаўная вавёрка. Яна грыбнікоў не баіцца. Падзівіцца вокам-шрацінкай і шугане рыжай маланкай між зялёнай навісі.

Алесь выходзіць з лесу радасны, з поўным кошыкам. Спяваюць, залівающца ўсюды птушкі — у іх свая радасць і надзея.

З-за пагорка вынырае вёска. Вось і дом. Маці збіраецца саджаць у печ грыбы. Печ смачна пахне пшанічнымі аладкамі і свежай падпражанай саломаю.

НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ

Алег Мінкін

## Як Лыска ваўком стаў

**П'еса ў трох дзеях.**
**Пачатак у папярэднім нумары**

*Лыска хаваецца за куст. Выходзіць Кравец са швейнаю машынкаю пад пахай і сукаватай палкай у руцэ.*

Кравец *(спявае).*

Я дарослым і маленькім
Шыю майкі, трусікі,
Стаўлю лапік на каленкі,
Прышываю гузікі.
У краўца усё жыццё —
Цыраванне і шыццё.

*(Спыняецца каля куста, да гледачоў).* Я — кравец. У маёй руцэ дубец. *(Паказвае гледачам палку).* Ад гэтага вось дубца нават ваўкі разбягаюцца ва ўсе бакі.

Лыска *(гаўкае, выбягае з-за куста, затым звяртаецца да Краўца).* Толькі не я! Я — воўк-ваўчышча! У мяне хвост, як памялішча! Лапы шырокія! Вочы чырвоныя! Я вачамі свячу, лапамі падграбаю, хвастом замятаю! Разбягуцца ўсе краўцы па бары, як пабачаць мае зубы і кіпцюры! Развітвайся са сваёю машынкаю, кравец, — прыйшоў твой канец! Я цябе з'ем! Гаў!

Кравец *(спакойна).* Ну, з'ясі, дык з'ясі — я згодны. Толькі ж ты, ваўчышча, нейкі не модны. Ну што за брыль! Што за світка! Аж глядзець брыдка! Ці не пашыць табе, воўча, каптан? Будзеш хадзіць у ім, як пан!

Лыска *(да гледачоў).* Бачыце, як напалохаўся Кравец? Нават забыўся пра свой дубец! А вы казалі, што я не воўк. *(Да Краўца).* І то праўда. Надыдзе зіма, а на мне, апроч гэтай дзіравай світкі, нічога няма. Бегай тады для сугрэву ад дрэва да дрэва. Сшый мне зараз каптан, ды каб быў у самы раз!

Кравец. Не будзем марнаваць час. Лажыся на жывот, шэры. Каптан спачатку трэба памераць.

Лыска *(кладзецца на жывот).* Сшый мне каптан з кутасамі і цёплыя штаны таксама!

Кравец *(лупцуе Лыску па спіне).* Не круціся, шэры. Не перашкаджай мераць!

Лыска *(вохкае, крычыць).* Ой, баліць спіна! Ой, трашчыць чэрап! Годзе! Годзе мераць!

Кравец. Усё ўжо! Толькі гузікі засталося назначыць! Лажыся інакш: лажыся на спіну!

*Лыска пераварочваецца з жывата на спіну. Кравец некалькі разоў тыцкае канцом палкі ў Лыскаў жывот. Лыска дрыгаецца і замірае.*

Кравец *(з песняю адыходзіць).*

Я дарослым і маленькім
Шыю майкі, трусікі...

Лыска *(прыўзнімае галаву, трасе ёю і садзіцца, да гледачоў).* Б-р-р! І навошта мне той каптан? Ці я цар які? Ці пан? Навошта мне тыя гузікі ў два рады? А кравец усё ж такі спужаўся мяне — задаў лататы. *(Хапаецца за жывот).* Ой, як хочацца есці — здаецца, каня праглынуў бы на месцы!

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Наталля Грамыка

### ЯК МЕСЯЦ У СТУДНІ КУПАЎСЯ

**Казка**

Стаяла млосная ліпеньская ноч. На небе ніводнай аблачынкі, і месяцу захацелася папіць вады са студні.

Апусціўся ён на вядры ў студню, напіўся, акунуўся. Але як цяпер выбрацца?

Ляцела міма сава. Папрасіў яе месяц выцягнуць вядро разам з ім са студні. Але не захацела сава дапамагчы.

— Мне і без месяца ўначы добра, я і ў цемры ўсё бачу.

Праходзіла міма кошка. Чуе, быццам хтосьці ў студні варушыцца. Зазірнула:

— Няўжо мышы купаюцца?

Папрасіў яе месяц дапамагчы.

— А мне ўначы і без святла добра паляваць, — адказала кошка.

Бегла па краі калодзежа мышка. Папрасіў яе месяц аб дапамозе. Але запішчала мышка:

— Няма калі, спяшаюся. Трэба паспець у кухні пагаспадарыць, пакуль усе спяць...

Нарэшце настала раніца. Узышло сонца. Бабуля прыйшла набраць вады. Выцягнула вядро з вадой, а там месяц. Абсушыла яна месяц у фартуху ды назад у неба закінула.

З таго часу месяц заўсёды свеціць уначы ў бабуліна акенца, каб яе ўнукі цемры не палохаліся.

Ніл Гілевіч

### Першы ўрок

**(паводле Б. Паспелавай)**

**Прыйшлі качаняты**
**На ціхі ставок:**
**Сягоння ў іх першы**
**Па плаванню ўрок.**

**Сама Белашыйка**
**Урок той вядзе:**
**— Смялей вас прашу**
**Акунацца ў вадзе!**

**Ныраюць малышкі —**
**Аж пырскі ляцяць.**
**Вясковыя дзеці**
**З усмешкай глядзяць.**

**І жаба старая —**
**З-пад берага скок:**
**— Цік-кавы, цік-кавы,**
**Цік-кавы урок!**

## Пішуць школьнікі

*ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!*

*Пішуць да Цябе вучні з Пачатковай школы ў Храбалах.*

*Мы вывучаем беларускую мову і ахвотна чытаем „Зорку“ і „Ніву“.*

*У адным з апошніх нумароў вашага часопіса нас зацікавілі вершы аб прыгажосці прыроды восенню. Яны сталі для нас натхненнем для малявання гэтай пары года.*

*„Зорачка“! Высылаем Табе нашыя восеньскія малюнкі.*

*Жадаем Табе ўсяго добрага ў гэты прыгожы восеньскі час.*

**Вучні 3 і 4 класаў школы ў Храбалах**



*Грыбы. Мал. Марты Аляксеюк, вуч. 4 класа.*



*Восень у парку. Мал. Эвы Чэрвінскай, вуч. 3 класа.*

## Пазнаёмімся

* * *

Я вельмі хачу перапісвацца з дзецьмі з Польшчы, з усімі, хто ўмее пісаць пісьмы па-беларуску. Памажы мне, „Зорачка“! Няхай дзеці да мяне напішуць. Мой адрас: Ізабела Лэнчыцкая, вул. Ягелонская 7а, кв. 25, 17-100 Бельск-Падляшскі, Беластоцкае ваяводства. Я вучуся ў пятым класе.

## Пазнавай свае веды

### БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(У 500-годзе з дня нараджэння)**

**— 17 —**

Падумаць толькі — як працавалася: у 1517 годзе 4 кнігі ў 646 старонак, у 1518 годзе — 8 кніг у 704 старонкі, у 1519 годзе — 11 кніг у 1000 старонак. Такім чынам, штомесяц, прыкладна, па 60—80 старонак...

Час яго вялікіх надзей, якія пачыналі нарэшце здзяйсняцца.

Цяпер, праходзячы міма дома, дзе выйшлі ў свет ягоныя першыя кнігі, ён не ведаў ужо, ці гэта напраўду, ці толькі як бы ва ўспаміне пачынае мацней біцца ягонае сэрца, як па-маладому напоўненым робіцца пульс...

Скарына працаваў вучоным садоўнікам у чэшскага караля. Гэта быў першы лекавы сад, першы ў славянскіх народаў. Можа, нават наш Францыск Скарына быў тым „італьянцам Франчэска“, што, паводле звестак чэшскага летапісца, заклаў гэты сад. З дыпломам доктара лекарскіх навук, атрыманым у італьянскім Падуанскім універсітэце, Скарына мог зусім верагодна здацца летапісцу італьянцам: імёны ж супадаюць: Францыск — Франчэска. Але нават калі і не Скарына закладваў сад, то ён, Скарына, шмат зрабіў для яго ўзгадавання.

Клапаціцца аб ім ён наказаў і сыну. Бо, як вядома з іншых дакументаў, пазней каралеўскім садоўнікам быў Францішкаў сын Сімяон...

Францыск Скарына жыў у вялікую эпоху Адраджэння. Яго выданні зрабілі вялікі ўплыў на ўсё далейшае кнігадрукаванне — згадайма хоць бы Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Івана Вішанскага, а за мяжою, скажам, Прымуса Трубэра ў Нямеччыне.

Першадрукар, перакладчык, мовазнавец, педагог, астраном, філосаф, медык, батанік, ён сваімі ідэямі, працаю прадвызначыў цэлыя стагоддзі ў культурнай і грамадскай гісторыі Беларусі.

Імя Францыска Скарыны свяціла нашаму народу надзеяй і верай у самыя цяжкія часіны беларускай гісторыі. Бо на працягу стагоддзяў нечуваны здзек трывала Беларусь: быць радзімаю ўсходнеславянскага кнігадрукавання і не мець права выдаваць кнігі на роднай мове. Яе слова зноў заганялі ў рукапіс то польскае панства, то царскае самадзяржаўе.

Нашу мову не проста прыгняталі, як, скажам, грузінскую, армянскую, літоўскую і іншыя, а адмаўлялі. На ёй было забаронена друкаваць усякія літаратурныя творы, за выключэннем толькі фальклорных.

Толькі ў рускую рэвалюцыю 1905 года, калі народы выйшлі на змаганне з самадзяржаўем, была знята забарона з беларускага слова.

Нашы людзі, удзячныя нашчадкі Францішка Скарыны, памятаюць вялікі подзвіг свайго слаўтага першадрукара. Штогод, калі з дрэў злятае першы восеньскі ліст, на радзіме асветніка праводзіцца скарынінскае свята, свята кнігі.

Імя нашага першадрукара ўбачыш ты сёння і ў назве вуліц, бібліятэк, друкарні. Цудоўны помнік узняўся яму на прыгожай плошчы ў Полацку. Стаіць у задуме Скарына, трымаючы ў руках кнігу, з якой ён прыйшоў да кожнага з нас.

### ЯК ЛЫСКА ВАЎКОМ БЫЎ

**(Працяг са стар. 9)**

*У гэты момант справа на сцэну выходзіць Конь. Лыска хаваецца за лазовы куст.*

Конь *(з песняю набліжаецца да куста).*

У зялёнай у дуброве
Гаспадар мяне распрог.
Покуль ён збірае дровы,
Я скубу траву-мурог.

Лыска *(выбягае з-за куста).* Здароў, конь! Здароў сівы! Смачнай табе травы! Як я рады нашай сустрэчы — мне якраз падсілкавацца няма чым! *(Пагрозліва).* Я — воўк-ваўчышча! У мяне хвост, як памялішча! Разбягаюцца звяры па бары, як пабачаць мае зубы і кіпцюры! Я цябе з'ем! Гаў! Гаў!

*Лыска набліжаецца да каня. Конь адступае.*

Конь. Ну, з'ясі, дык з'ясі. А можа пачакаеш крышку? Ці мо пачытаеш адну цікавую кніжку?

Лыска. А пра што напісана ў тваёй кніжцы?

Конь. Пра тое, як сабака-небарака выдаваў сябе за ваўка-ваяку.

Лыска. Вось дурны сабака. А дзе твая кніжка, дзе?

Конь *(прыўзнімае нагу).* Ды вунь ззаду, на капыце.

Лыска *(абмінае Каня, становіцца ззаду, наводдаль).* Няма тут ніякай кніжкі. Манюка, а яшчэ сівы — не знасіць табе галавы!

Конь. Ты воўча, сташ не так: у кніжцы літары дробныя, што мак. Падыдзі бліжэй ды схіліся ніжэй!

Лыска *(падыходзіць да самага Каня, схіляецца над капытом).* Ніякай кніжкі тут няма! Толькі час марную дарма!

*Конь б'е Лыску капытом. Той падае, ляжыць нерухома. Конь спакойна ідзе далей.*

Конь *(спявае).*

У зялёнай у дуброве
Гаспадар мяне распрог...

Лыска *(садзіцца, мацае рэбры).* Падмануў мяне канюга даўгалыгі! І на ліха мне была тая кніга! Не ведаю ні „а“ ні „б“, а такі цікаўны, як грамацей які ці настаўнік. *(Трэ лапаю жывот).* Ой, як звяло ад голаду страўнік! Не чытаў бы канёвай пісаніны — пакаштаваў бы свежай каніны. *(Задумваецца).* Трэба ісці бліжэй да вёскі. Там на лузе пасвяцца авечкі, ды козкі, ды тлустыя гускі, ды важак-гусак... Цікава, які ён на смак?

*Лыска ўстае і ідзе па сцэне.*

**ЗАСЛОНА**

**Заканчэнне ў наст. нумары.**

## Вясёлы куточак

* * *

— Ты чаму, Ваня, так позна са школы вяртаешся?

— Ведаеш, тата, каля нашай школы адзін дзядзька згубіў грошы і шукаў іх.

— Дык ты што — дапамагаў яму шукаць?

— Не, я на іх стаяў.

* * *

— Ты чаму нікому не прызнаўся, што пярсцёнак знайшоў?

— А чаго прызнавацца? На ім жа было напісана: „Навекі твой“.

* * *

— Цёцю, не хочаш з намі пагуляць?

— Магу, чаму не. А ў што з вамі пагуляць?

— Мы будзем коньмі, а ты нашай сяброўкай, якая любіць коней карміць цукрам.

* * *

Настаўнік напісаў на табліцы хімічную формулу HCL і пытаецца:

— Што абазначаюць гэтыя літары? Скажы, Якуб.

— Не магу сказаць, але гэта вісіць у мяне на кончыку языка.

— Дык хутчэй кажы, бо гэта кіслата.

* * *

— Дзе падзеўся пірог, што тут на талерцы ляжаў? — пытаецца маці.

— Я гэты пірог галоднаму хлопцу аддаў, — тлумачыцца Пеця.

— Пашчаслівілася таму хлопцу, што ты добрае сэрца маеш. Хто гэта быў?

— Я.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



*Хто з дзяцей трымае шнурок ад змея?*



**Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.**

 

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

**PIĄTEK 2 XI 1990 r.**
**PROGRAM I**

7.40 „Express gospodarczy"
8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Domowe przedszkole"
9.35 „Życie od kuchni" (9)
10.20 Szkoła dla rodziców
12.00 Porozumiewanie się zwierząt
12.30 „Bitwa pod Cedynią"
13.00 Fizyka dla humanistów
13.30 Spotkania z literaturą
14.10 Agroszkoła
14.35 Język angielski (9)
15.05 „Manhattan pod modrzewiem"
15.30 Uniwersytet Nauczycielski
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top"
16.20 „Latający Holender"
16.45 Dla dzieci: „Ciuchcia"
17.15 Teleexpress
17.30 „Raport"
17.55 „10 minut"
18.10 „Star Trek"
18.55 „Od „Kapitału" do kapitału"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Achille Lauro" (cz. 3)
21.15 „New York, New York"
21.45 „Dno piekła" — film dok.
22.50 Wiadomości wieczorne
23.05 Studio Sport

**PROGRAM II**

7.00 CNN — Headline News
7.15 Uniwers. kurs j. ang.
7.20 Magazyn TV Śniadaniowej
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa"
9.10 „Santa Barbara" (72)
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 „Burda"
11.15 „Bagdad Cafe" — serial USA
11.40 „Bliżej świata"
12.55 „Crime Story" (18)
13.40 „Express gospodarczy"
14.00 CNN — Headline News
14.15 Program dnia
14.20 „Przegląd prasy"
14.30 „Czas akademicki"
15.00 Film fabularny
16.00 „W labiryncie" — serial TP
16.30 Wzrockowa lista przebojów
17.00 „Nad Niemnem" (cz. I)
17.55 Uniwersalny kurs j. ang.
18.00—21.30 Programy regionalne
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Crime Story" (18)
22.45 Legendy filmu — Ch. Bronson
23.40 Gdzie są taśmy z tamtych lat
0.10 Komentarz dnia
0.15 CNN — Headline News
0.30 Uniwers. kurs j. ang.

**SOBOTA 3 XI 1990 r.**
**PROGRAM I**

7.05 „W sobotę rano"
7.35 „Tydzień na działce"
8.05 „Rolnictwo na świecie"
8.20 „Piłkarska kadra czeka"
8.35 „Ziarno" — pr. Red. Katol.
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Wiatrak" oraz film radz. „Mały detektyw"
10.40 „Na zdrowie"
11.00 Wojskowy pr. dok.
11.25 „Wędrówki dalekie i bliskie"
12.20 „Z Polski rodem"
12.50 „Zderzenia"
13.25 „Flesz" — mag. muzyczny
13.50 „Jak się wam podoba, czyli wydarzenie miesiąca"
14.25 „Laboratorium"
14.45 „Prawo prawa"
15.10 „W kinie i na kasecie"
15.30 „Smak życia"
16.15 „Wielki brat Jake" — film
17.10 Magro-magazyn
17.15 Teleexpress
17.35 „Sztuka i my"
17.55 „Portrety": „Jestem biednym wyrzutkiem" — film dok.
18.55 „Z kamerą wśród zwierząt"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Plaza Suite" — film USA
22.05 „Kontrapunkt"
22.45 Sportowa sobota
23.30 Wiadomości wieczorne
23.40 „Mandingo" — film USA

**PROGRAM II**

7.15 Magazyn TV Śniadaniowej
8.00 Panorama dnia
8.15 „Dziedzictwo" (6)
9.05 Magazyn TV Śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
10.40 „Cudowne lata" (18)
11.05 „W świecie ciszy"
11.25 Program dnia
11.30 „Rodzina Brettów" (4)
12.30 „Zwierzęta świata"
13.00 „Santa Barbara"
14.30 „5—10—15"
15.30 „Strefa mroku" (5)
16.00 „Kontakt TV"
17.00 „Wielka gra" — teleturniej
18.00 Program lokalny
18.30 „Benny Hill"
19.00 „Uśmiech z Galicji"
19.30 „W Badenii-Wirtembergii"
20.00 Portret kompozytorski
21.00 „Dwa + 2"
21.30 Panorama dnia
21.45 Słowo na niedzielę
22.00 „Rodzina Brettów" (4)
22.55 Przegląd muzyczny
23.15 Komentarz dnia

**NIEDZIELA 4 XI 1990 r.**
**PROGRAM I**

7.00 „Witamy o siódmej"
7.30 „Kraj za miastem"
7.55 „Po gospodarsku"
8.10 „Od niedzieli do niedzieli"
8.55 Program dnia
9.00 Teleranek oraz film „Niebezpieczna zatoka"
10.30 „Muzeum D'Osray" (odc. 6)
11.20 „Notowania"
11.45 „Śladami Komendanta" pr. dok.
12.00 Poranek symf. WOSPRiTV
13.00 „Tęczowy Music Box"
14.00 Tel. koncert życzeń
14.45 „Pieprz i wanilia"
15.30 „Szpieg w masce" — film pol.
16.50 „Antena"
17.15 Teleexpress
17.30 Tel. Teatr Rozmaitości: E. Robles — „Montserrat"
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 „Fanny i Aleksander" — film
21.40 „7 dni — świat"
22.10 Sportowa niedziela
22.55 Wiadomości wieczorne
23.10 „Party" — W. Gąsowski

**PROGRAM II**

6.25 Panorama dnia
6.35 „Kalejdoskop"
7.05 „Przegląd tygodnia" (dla niesł.)
7.40 „Fanny i Aleksander" (cz. I)
9.10 „Jutro Poniedziałek"
9.30 Program lokalny
10.00 CNN — Headline News
10.15 „Santa Barbara"
11.45 „Express Dimanche"
12.05 Polska Kronika Filmowa
12.15 „Cztery kobiety" — serial wł.
13.15 100 pytań do...
13.55 Z batutą i humorem
14.15 „Latający doktorzy" (8)
15.10 „Gombrowicz" (cz. 2)
16.10 „Podróże w czasie i przestrzeni"
17.00 Studio sport
17.30 „Bliżej świata"
19.00 „Wydarzenie tygodnia"
19.30 „Galeria 37 milionów"
20.00 Przeboje B. Kaczyńskiego
21.00 Teatr paryski „Star Job"
21.30 Panorama dnia
21.45 „Cztery kobiety" — serial wł.
22.45 „Rozmowy bez sekretów"
23.35 Komentarz dnia
23.40 Poezja nowej fali
23.55 CNN — Headline News

**PONIEDZIAŁEK 5 XI 1990 r.**
**PROGRAM I**

13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 Język francuski
15.05 „Sezam" — „Cyborg"
15.30 Uniwersytet Nauczycielski
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top"
16.20 „Luz" — pr. nastolatków
17.15 Teleexpress
17.30 Encyklopedia II wojny świat.
18.00 „Rodzina Kanderów" (7)
19.00 „10 minut"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr TV: A. Savoir — „Wielka księżna i chłopiec hotelowy"
21.25 W Sejmie i Senacie
21.55 „Jazz Jamboree' 90"
22.25 Wiadomości wieczorne
22.45 Język niemiecki

**PROGRAM II**

13.35 „Przegląd prasy".
13.45 „Antena „Dwójki"
13.55 Uniwers. kurs j. ang.
14.00 CNN — Headline News
14.15 „Magazyn piłkarski"
15.00 „Zbliżenia"
15.30 Film fabularny
16.30 „Ojczyzna—polszczyzna"
16.45 „Widziane z Gdańska" — publ.
17.00 „Poetka z Osieka" — pr. poet.
17.25 „Angel i Wielki Joe" — film
17.55 Uniwers. kurs j. ang.
18.00 Program lokalny
18.30 „Piłsudski" (5) — film dok.
19.00 Publicystyka
19.30 Język angielski
20.00 „Auto-Moto Fan Klub"
20.30 Seans filmowy
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Hotel Polanów i jego goście"
23.45 „Witryna wydawców"
24.00 Studio im. A. Munka
1.00 Komentarz dnia
1.05 CNN — Headline News
1.20 Uniwers. kurs j. ang.

**WTOREK 6 XI 1990 r.**
**PROGRAM I**

8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Domowe przedszkole"
9.35 „Przyjemne z pożytecznym"
9.55 „Dynastia" (49) — serial USA
12.00 Muzyka
12.30 Na legionowym szlaku
13.00 Chemia
13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 „Marek Żuławski" — film dok.
15.05 „Jedwabny szlak" (6)
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top"
16.20 „Tik-Tak"
16.50 „Misia Yogi wyprawa po skarby"
17.15 Teleexpress
17.30 „10 minut"
17.45 Tel. Teatr Prozy: M. Dąbrowska — „Łucja z Pokucic"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Dynastia" (49)
21.00 „Teraz" — tygodnik gosp.
21.30 „Walka o demokrację" (10)
22.25 Program publicystyczny
22.55 Wiadomości wieczorne
23.15 „Ring" — magazyn
23.55 Język francuski

**PROGRAM II**

7.00 CNN — Headline News
7.15 Uniwers. kurs j. ang.
7.20 Magazyn TV Śniadaniowej
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa"
9.10 „Santa Barbara"
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 „Burda" — świat mody
11.15 „Hannah i jej siostry" — film
12.55 Film dokumentalny
13.15 Program dnia
13.20 „Przegląd prasy"
13.30 „Dookoła świata"
14.00 CNN — Headline News
14.15 Publicystyka (ekologia)
14.45 „Z wiatrem i pod wiatr"
15.00 Film fabularny
16.00 „Kontakt TV"
17.00 „National geographic" (3)
17.55 Uniwers. kurs j. ang.
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna
18.50 „Ignacy Jan Paderewski — Zanim powróci" — pr. dok.
19.30 Język angielski
20.00 „Siódemka" w „Dwójce"
20.10 Wywiady Ireny Dziedzic
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Hannah i jej siostry"
23.35 Teatr czyli świat
0.05 Komentarz dnia
0.25 Uniwers. kurs j. ang.

**ŚRODA 7 XI 1990 r.**
**PROGRAM I**

7.40 „Express gospodarczy"
8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Domowe przedszkole"
9.35 „Męskie sprawy" — film pol.
12.00 Przybysze z Matplanety
12.30 Sylwetki hist. — Chłapowski
13.00 Człowiek i środowisko
13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 Ekonomika dla rolnika
14.45 Chemia bez tajemnic
15.00 Język niemiecki
15.30 Uniwersytet Nauczycielski
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top"
16.20 „Sami o sobie"
16.45 „Karino" (9) — serial TP
17.15 Teleexpress
17.30 „System" — publ. międzynar.
17.55 „Rolnicze rozmaitości"
18.10 „Klinika zdrowego człowieka"
18.30 „Sprawa dla reportera"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Męskie sprawy" — film pol.
21.50 „Racje" — pr. publ.
22.20 Program rozrywkowy
22.50 Wiadomości wieczorne
23.10 Język angielski

**PROGRAM II**

7.00 CNN — Headline News
7.15 Uniwers. kurs j. ang.
7.20 Magazyn TV Śniadaniowej
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa"
9.10 „Santa Barbara"
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 „Burda" — świat mody
11.15 „Córy słońca" — film austral.
12.15 Gdzie są taśmy z tamtych lat
13.10 „Bawiny góralskiego zwyku '90"
13.40 „Express gospodarczy"
14.00 CNN — Headline News
14.15 Program dnia
14.20 Przegląd prasy
14.30 „Zatrzymanie" — pr. publ.
15.00 Film
16.00 „Kontakt TV"
17.00 „Szpital na peryferiach" (19)
17.55 Uniwers. kurs j. ang.
18.00 Program lokalny
18.30 Serial
19.00 Magazyn „102"
19.30 Język francuski
20.00 Wrocław na antenie „2"
21.00 „Ze wszystkich stron"
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „W labiryncie" — serial TP
22.25 „Telewizja nocą"
23.10 Komentarz dnia
23.15 CNN — Headline News
23.30 Uniwersalny kurs j. ang.

**CZWARTEK 8 XI 1990 r.**
**PROGRAM I**

8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „100 lat" — mag. ubezp. społ.
9.20 „Domowe przedszkole"
9.45 „Ulice San Francisco" (9)
10.35 To się może przydać
12.00 „Ordy" — jap. serial anim.
12.30 „Kronika wydarzeń"
13.00 Fizyka
13.30 Spotkania z literaturą
14.05 Agroszkoła
14.35 „Przez lądy i morza"
15.05 Kim być — decyzje 15-latków
15.30 „Biała broń" (9)
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości
16.10 „Video-Top"
16.20 „Kwant" oraz film „Ordy"
17.15 Teleexpress
17.30 „10 minut"
18.10 Program publicystyczny
18.50 Magazyn katolicki
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Ulice San Francisco" (9)
21.00 „Interpelacje"
22.00 „Pegaz"
22.30 Wiadomości wieczorne
22.45 Program rozrywkowy
23.20 Język angielski

**PROGRAM II**

7.00 CNN — Headline News
7.15 Uniwers. kurs j. ang.
7.20 Magazyn TV Śniadaniowej
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa"
9.10 „Santa Barbara"
10.00 CNN — Headline News
10.15 Magazyn TV Śniadaniowej
11.00 „Burda" — świat mody
11.15 „Polana bajek" — film fab.
12.20 Film dokumentalny
12.50 „Przegląd prasy"
13.00 Wrocław na antenie „2"
14.00 CNN — Headline News
14.15 Program publicystyczny
15.00 Film
16.00 Mag. krajów nadbałtyckich
17.00 Spotkanie z A. Kaszpirowskim
17.55 Uniwers. kurs j. ang.
18.00 Program lokalny
18.30 „Cudowne lata" (18) powt.
19.00 Program publicystyczny
19.30 Język niemiecki
20.00 Studio Sport
20.15 Rewelacja miesiąca — G. Puccini „Dziewczyna z Zachadu" (akt 1)
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 G. Puccini „Dziewczyna z Zachodu" (akt 2, 3)
23.40 Komentarz dnia
24.00 Uniwersalny kurs j. ang.




**Аб XIX сустрэчы амерыканскіх беларусаў ● Што гэта значыць? — аб рэакцыях на польска-беларускія перагаворы ● Сыракомля — пясняр беларускай зямлі ● Выстаўка самвыдатаў у Лодзі ● Пастава гайнаўскай „Салідарнасці" адносна ліста БДА ў Сейм ● Валэнса і меншасці ● Рэха скарынінскіх святкаванняў ● Парады ● Вянок.**

 

